# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 39 (1231) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 30 ВЕРАСНЯ 1979 г. ЦАНА 1 зл.



*З-пад грушы-дзічкі, што значыць колішнюю сядзібу Вайкава, прасціраецца маляўнічы краявід на Надбужскую даліну.*

### КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## ВАЙКАЎ

Сорак чатыры гаспадаркі гэтай вёсачкі, бы стадка спалоханых шуляком курапатак, рассыпаліся па хвалістай надбужанскай выдме ўсяго ў якіх чатырохпяці кіламетрах на ўсход ад Мельніка. Шуснулі яны пад разгалістыя хвоі ды кучаравую садавіну і заціхлі воддаль ад Буга, быццам пабойваючыся яго напорыстай плыні. І не без падставы.

Паданне кажа, што гадоў таму трыцці болей на Бузе ўзнялася такая паводка, што вада не змяшчалася ў логаве ракі, мутнай навалай перакочвалася па ўсёй рачной даліне, рыла бяздонныя прорвы на агародах і палях. Так доўга і няўмольна „знуткавалася" рака, што вайкаўцы ўжо нават страцілі надзею на магчымасць выпусціць раву-чую з голаду жывіну на прыбярэжны Луг, а самі выйсці з сошкамі на Валокі. Але калі ўрэшце Буг суняўся, усё сяло ў адзін голас залемантавала: рака замест плысці ў вярсце, аж пад процілеглаю вёскаю Барсукі, праклала сабе новае логава на вайкаўскім Загородзі. За шырокай і глыбокай плынню апынуліся іхнія паплавы і сенажаці. І ад таго часу воляй-няволяй даводзіцца аж да сёння штодня ўсяму вайкаўскаму дабытку ўплаў пераадольваць раку. Колькі цельных каровак ды жарэбных кабылак, няўрымслівых цялятак ды шустрых жарабят праглынула ненажэрная рачная плынь! Але Бугу і гэтага мала. Яго хвалі настойліва і нястрымна пачалі падмываць той стромкі пагорак, на якім гнездзіўся перапуджаны смяротнай небяспекай Вайкаў. Аднак калі ў ваду пачалі валіцца клунькі, свіронкі, хлеўчыкі ды хіліцца хаты, вайкаўцы рашылі даць адпор свайму ворагу. Усёй грамадой упоперак рачнога русла пачалі сыпаць доўгую сажняў на пяцьдзесят каменную „галоўку". Але Буг не адступаў: пасля кожнай паводкі мала што заставалася ад людскіх намаганняў адхіліць яго напор. Вайкаўцы ж таксама не паддаваліся, яны, і старыя і малыя, вызбіралі з навакольных палёў усе да апошняга каменьчыка, вазілі матэрыял таксама з адлеглых мясцовасцей і „галоўка"-запора ўсё таўсцела ды разрасталася. Людзі перамаглі: гадоў семдзесят таму назад Буг усё ж адступіў, праклаў сабе новае русла крыху далей ад Вайкава. Але вёска таксама зраклася з былой сваёй сялібы і пасля апошняй вайны адышла далей ад берага. На „нейтральнай зоне" колішняй бітвы рака аставіла глыбокія старыя рэчышчы, „бужыскі", а сяло — разгалістыя грушы-дзічкі...

На тое, што тут было перад гэтай легендай, могуць кінуць крыху святла толькі археалагічныя раскопкі загадкавага могільніка, які тутэйшыя людзі завуць „каплічыско". У гэтым месцы гадоў сто таму назад стаяла уніяцкая капліца. Доўгі час вайкаўцы бралі з гэтага высокага пагорка жвір на розныя будовы, але натрапіўшы аднойчы на рэшткі людскіх касцей, спынілі разбураць гэты могільнік, які магчыма паходзіць яшчэ з часоў летапіснага племені бужанаў.

Упершыню ў вядомых пісьмовых дакументах Вайкаў упамінаецца пад 1580 годам. Ён ужо тады не належаў да уладанняў караля польскага, але быў прыватнай панскай уласнасцю і знаходзіўся ў нейкай гаспадарчай сувязі з суседнім маёнткам у Сутне. Пасля адмены паншчыны ў Вайкаве было 14 „участкаў" па 18 „дзесяцін" зямлі ў кожным. „Сядзелі" тут даўнія сялянскія „роды". Высоцкія, Дубіны, Любоўскія, Міхалюкі, Парафенюкі, Рэмешы, Сахарэвічы, Сэльвястровічы, Супруновічы, Харко, Ярошукі. У асноўным гаспадарылі на сваіх „загонцях", ездзячы ды ходзячы сцяжынамі-межамі, па-тутэйшаму „гранкамі", на палеткі: Волока, Гуорны, Забуор'е, Загороде, Задвуор'е, Залессе, Клепачоўкі, Куты, Нізы, Стары Гостінэць і на надбужанскія сенажаці: Залессе, Коростовэць, Пэнюшкі. Працавалі з помыслам. Янка Сельвястровіч нават змайстраваў у канцы мінулага стагоддзя вятрак на пагорку на Волоцы, але „завозу" амаль не было, бо ўсе малолі ў жорнах, і давялося яму прадаць гэты твор уласных рук некуды на Буг яшчэ перад „мікалаеўскай" вайной.

Хоць і ваявалі вайкаўцы з Бугам, але з яго калісьці і жывіліся. Перш за ўсё займаліся сплавам дрэва. Бралі „па-

(Працяг на стар. 4)



*Вайкаўскі старажыл Міхал Харко, седзячы на цалкам ужо цяпер нікому не прыдатным „развэрку" ахвотна ўспамін ае пра колішняе.*

### КАВАЛЕР ОРДЭНА АДРАДЖЭННЯ ПОЛЬШЧЫ

## КІРАЎНІК „КАРО"

Што гаварыць, не кожны можа быць гаспадаром у сваёй хаце, а гаспадаром фабрыкі — тым больш. Не простая справа — узначальваць фабрычны калектыў. Колькі ў ім чалавек, столькі характараў. На такой пасадзе неабходна прынцыповасць, дзелавітасць, адказнасць. Толькі такія рысы акрэсліваюць штодзённы стыль работы кіраўніка. На яго галаве выкананне дзяржаўнага плану, клопаты аб поспеху ўсіх спраў прадпрыемства, вялікіх і малых.

Анатоль Кандрусік ужо 21 год з'яўляецца кіраўніком трыкатажнай фабрыкі ў Гарадку. А калі чалавек так доўга ўзначальвае прадпрыемства, значыць, на гэтай пасадзе ён здае экзамен і ведае добра гісторыю фабрыкі, ведае, якою была яна і якою стала цяпер.

А цяпер гэта сучасная фабрыка з сучаснымі швейнымі машынамі, добра кліматызаваная, відная, са сваёй амбулаторыяй, сталовай, буфетам, яслямі на 80 дзяцей, прадшколлем на 120 (хаця фабрыка „Каро" іх пабудавала, карыстаецца з ясляў і прадшколля ўвесь гарадскі пасёлак). Хапае працы людзям, асабліва жанчынам з усёй ваколіцы.

Штомесяц „Каро" дае прадукцыі больш як на 25 мільёнаў зл., вырабляе каля 600 тысяч штук розных артыкулаў. Два з іх — кашулькі і кальсоны — са знакам Q і тры — са знакам першай якасці. Прадукуецца тут 16 відаў вырабаў. Ідуць яны на ўнутраны рынак і на экспарт (Фінляндыя, Заходняя Германія і Францыя). Такім чынам,



трыкатажныя вырабы з Гарадка не ўступаюць па якасці трыкатажным вырабам у высокаразвітых заходніх краінах.

„Каро" мае на сваім рахунку шмат дасягненняў. Але не значыць гэта, што атрымоўваюцца яны без клопатаў. Не заўсёды ўсё ідзе гладка. Здараюцца цяжкасці рознага роду, у тым ліку і недахоп рабочых рук. Але яны, дзякуючы добраму кіраўніцтву і адданасці ўсяго калектыву ўмела перамагаюцца. Вялікую ролю тут адыгрывае добрая прафесіянальная падрыхтоўка, вопыт і арганізацыйная кемлівасць Анатоля Кандрусіка.

Ён — выпускнік Вышэйшай школы планавання і статыстыкі (СГПіС) у Варшаве. Пасля яе заканчэння (1953 г.) накіраваны быў ён на працу ў элцкі ПГР, дзе быў кіраўніком аддзела планавання.

(Працяг на стар. 4)

## ПРАЗ КНІЖКУ ДА ВЕДАЎ

Добра працуе гмінна-гарадская бібліятэка ў Супраслі, у якой працуюць Мар'янна Пулаўская (яна кіруе ўстановай восем гадоў), Уршуля Стоцкая і Надзя Хомік. Публічная бібліятэка арганізавалася ў 1950 годзе. Ад 1976 года яна знаходзіцца ў гмінна-гарадскім цэнтры культуры. Цяпер у ёй 17800 кніжак. Тут ёсць 55% мастацкай літаратуры, 30% папулярна-навуковай літаратуры, 15% грамадска-палітычнай, багаты кнігазбор аб другой сусветнай вайне, гісторыі і геаграфіі Польшчы, многа разнародных энцыклапедый, слоўнікаў, лексіконаў, альбомаў. Апрача таго наведвальнікі маюць да выбару 30 розных загалоўкаў газет і часопісаў. Кніжак пастаянна прыбывае. Для прыкладу, у бягучым годзе было закуплена 350 новых кніжак. Кніжкі знаходзяцца ў асобных пазычальнях для дарослых і дзяцей. Супрасльскай бібліятэкай карыстаецца 775 чалавек. У сярэднім на аднаго чытача прыпадае 20 прачытаных кніжак. Летам часта заходзяць у бібліятэку прыезджыя, якія ў Супраслі адпачываюць. Сёлета па кніжкі наведвалася звыш 60 курортнікаў.

Колькасць чытачоў павялічваецца. У бягучым годзе лік іх павысіўся на 65. Гэта ў Супраслі. А варта дадаць, што ў гміне дзейнічаюць філіялы бібліятэкі ў Агароднічках і Сабалеве ды чатыры бібліятэчныя пункты. Будуць адкрыты бібліятэчныя пункты ў клубе прэсы і кніжкі ў Цяным і ў вясковай святліцы ў Саўлянах. У філіялах бібліятэкі знаходзіцца 13 900 кніжак і карыстаецца і 465 пастаянных чытачоў. У Агароднічках ёсць многа кніжак з галіны сельскай гаспадаркі: па гадоўлі, вырошчванні збожжа, агародніцтву, садаводству, пчалаводству, сельскагаспадарчай тэхніцы. Гэтыя кніжкі цяпер штораз ахвотней чытае вясковая моладзь.

Што чытаюць наведвальнікі бібліятэкі? Найбольш творы класікаў польскай і сусветнай літаратуры і іншых вядомых пісьменнікаў. Гэтых пазіцый ніколі няма ўдосталь. Цяжка таксама задаволіць запатрабаванне на кнігі беластоцкіх пісьменнікаў, асабліва А. Амільяновіча, які тут мае вялікае кола чытачоў. Побач з гэтым у апошні час кідаецца ў вочы хуткі рост попыту на тэхнічныя кнігі. Вялікім дасягненнем бібліятэкараў, якія стараюцца, каб у бібліятэку паступалі найцікавейшыя кніжкі, з'яўляецца тое, што няспынна расце зацікаўленне чытачоў папулярна-навуковай літаратурай.

Зразумела, што дзейнасць бібліятэкі не абмяжоўваецца толькі пазычаннем кніжак. Арганізоўваюцца тут розныя чытальніцкія конкурсы, сустрэчы з пісьменнікамі, выстаўкі выдавецкіх навінак (яны экспануюцца і ў мясцовым клубе „Рух") і тэматычныя выстаўкі кніжак. Працуе дваццаціасабовы гурток любіцеляў паэзіі, які наладжвае вечары паэзіі ў адпаведна ўпрыгожанай зале і камеральнай атмасферы.

**Я. Целушэцкі**

## ЧАЦВЕРТЫ ДЗЕСЯТАК

Прыемна, калі з'едзецца ўся сям'я, сядуць вакол святочнага стала і ўспомняць, прыгадаюць свае колішнія мары, што збыліся і не збыліся. І, здаецца, ты ў былым, як у сённяшнім, і не верыцца, што „нельга другі раз увайсці ў тую самую раку".

— Гонар гэта нам, што наша школа — равесніца нашай адроджанай айчыны. У 1944 годзе ў знішчаным, але вольным горадзе, побач з іншымі школамі пачалі працаваць чатырохгадовая беларуская гімназія і двухгадовы беларускі ліцэй, — гаворыць дырэктар Аляксей Карпюк у сваім святочным выступленні на І з'ездзе Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім.

Тагачаснаму дырэктару, Анатолю Тымінскаму, удалося сабраць самых лепшых педагогаў горада, тых, якія ў гады савецкай улады настаўнічалі ў мясцовай дзесяцігодцы. І восенню дзевятнаццаць настаўнікаў распачалі працу. У школе звыш двухсот вучняў — сем класаў у гімназіі і адзін клас ліцэістаў. Школа змяшчалася ў скромным жылым доме на скрыжаванні вуліц Касцюшкі і 3 Мая. З увагі на цеснату і вялікую колькасць вучняў, заняткі пачыналі ў сем гадзін раніцы і саракамінутныя ўрокі паўтараліся аж да позняга вечара. Школьнай дошкай быў кавалак фанеры, замест парт — сталы, падораныя вайсковай часцю. У наступным, 1945/46 школьным годзе школа разраслася. Былі два класы ліцэя. Колькасць вучняў павялічылася да трохсот чалавек. Пачынаюць дзейнічаць арганізацыі — ЗВМ, ПЦК, працуе вучнёўскі кааператыў. Праяўляецца вялікая дапамога з боку бацькоўскага камітэта, нараджаецца аматарская артыстычная дзейнасць. У канцы года з Бельска выязджае А. Тымінскі, і абавязкі дырэктара пераймае Яраслаў Кастыцэвіч.

1946 год — два важныя моманты ў жыцці гімназіі і ліцэя. Радасны — першыя выпускнікі, дваццаць асоб з вялікай матурай і 80 — з малой; сумны — закрываюць школу. Усю дакументацыю перадаюць у гімназію і ліцэй імя Т. Касцюшкі. Трохгадовы перапынак.

Беларуская гімназія і ліцэй пакінулі трывалы след у памяці бацькоў, моладзі, настаўнікаў. Ідуць безупынныя старанні, каб яго паўторна адкрылі. І ў 1949 годзе школа адраджаецца. Загадам міністра асветы з 20 жніўня школе вернуты яе правы. Ад першага верасня пачынае працаваць так званая адзінаццацігодка — сем класаў пачатковай школы і чатыры — ліцэя. Дырэктар — ізноў Яраслаў Кастыцэвіч. Школа набірае сіл, расце. І першая пасля перапынку матура. У 1952 г. ідзе ў свет дваццаць выпускнікоў. Разрастаюцца настаўніцкія кадры. На работу прыходзяць былыя вучні. З году ў год павялічваецца колькасць вучняў. Становіцца цесна. Але ёсць надзея. У цэнтры горада расце новы трохпавярховы будынак. І зімой 1962 года ў школе вялікае свята — пераехалі на новае месца. Прасторна.

Першага верасня 1965 г. — пачатак новага школьнага года і сумны момант расставання з такім добрым дырэктарам і педагогам Я. Кастыцэвічам. З увагі на здароўе ідзе ў гадавы водпуск, але на работу так ужо і не вярнуўся. На яго месца назначылі Мікалая Гайдука. У гэтым жа годзе аддзяляюцца класы пачатковага навучання і ўтвараюць пачатковую школу № 3.

Вялікую радасць прынёс з сабой 1968 год. Для ліцэя — падзея амаль гістарычная. Плён стараннаў М. Гайдука — дазвол на ўтварэнне трэцяга аддзела першых класаў.

Не менш важны ў жыцці ліцэя і наступны год. Школе прысвоілі імя Браніслава Тарашкевіча, аўтара першай „Беларускай граматыкі", перакладчыка на беларускую мову „Пана Тадэвуша" і вядомага дзеяча сялянска-рабочай „Грамады".

Пераломным момантам у жыцці школы быў 1971 г. Пачынаючы ад верасня, абавязкі дырэктара прымае Аляксей Карпюк. Школа разрастаецца. Дабудоўваюцца класныя залы. Коштам 180 тысяч злотых ствараецца ў гістарычным класа-кабінеце куток народнай памяці. Расце ўзровень навучання. У сярэднім у вышэйшыя школы паступае звыш 70% тых вучняў, што здаюць экзамены. У гэтым годзе быў рэкорд. Студэнтамі стала аж 60 абсальвентаў. Па ўсёй краіне славяць імя сваёй школы алімпійцы. У школе цяпер пятнаццаць класаў. Павялічваецца колькасць вучняў. Вучыцца там зараз 434 асобы.

— З анкеты вынікае, — гаворыць далей А. Карпюк, — што прыблізна 25% нашых абсальвентаў — гэта інтэлігенцыя з тэхнічнай адукацыяй, каля 20% — выбралі настаўніцкую прафесію, 12% — лекары, 8% — эканамісты, далей працаўнікі, звязаныя з сельскай гаспадаркай, адміністрацыяй, журналісты, вайсковыя. Амаль 80% нашых выпускнікоў выконвае адну і больш грамадскіх функцый.

Дваццаць восем разоў за гады працы ліцэя вучні прыступалі да здавання матуры, дваццаць восем разоў адкрывала ім школа дзверы ў самастойнае жыццё. Калі І з'езд абсальвентаў, які адбыўся ў 1974 годзе, сустрэлі тысячным пасведчаннем атэстата сталасці, дык зараз маюць за сабой аж 1710.

Агульнаадукацыйны ліцэй імя Б. Тарашкевіча рыхтуецца да II з'езду. Сваіх выпускнікоў сустрэне ў верасні наступнага года. Іх ужо каля дзвюх тысяч. Аграмадная сям'я. Колькі з іх прыедзе на гэтую сямейную ўрачыстасць, якой яна будзе, якой хацелі б, каб яна была, што думаеце на гэтую тэму? Яшчэ год — калі ласка, выказвайцеся, чакаем прапаноў.

**М. Шаховіч**



*Дом культуры ў Міхалове.* *Фота Я. Целушэцкага.*

## Дзе вы, старыя „белавежцы"?

Старанна чытаючы „Ніву", можна заўважыць, што літаратурнае аб'яднанне „Белавежа" неяк не пашырае сваёй літаратурнай дзейнасці. Гэтакі закід адносіцца і да аўтараў, месца якіх у „Парнасіку". Вось, напрыклад, „прапаў" Васіль Баршчэўскі, апавяданне якога „Дужы Ясё" назаўсёды застанецца ў маёй памяці. Не відаць таксама Заставіна С., Юркі Геніюша, Віктара Кабаца, Дзмітрыя Шатыловіча, Уладзіміра Паўлючука... Недзе прапаў і Уладзімір Шклярук, які раней часта пісаў вершы, а таксама Мікалай Краўчук, пра якога я нават пісаў у „Ніве", каб адгукнуўся.

Былі такія, што праявілі сваю літаратурную дзейнасць гадоў дзесяць таму назад, але як хутка адазваліся, так яшчэ хутчэй заціхлі. Да іх належыць і мой зямляк сябра Яўген Блізнюк.

Цяпер да тых, якія надалей пішуць. Пайшла мода чамусьці на сучасную паэзію. Але пісаць прозай нікому не пашкодзіць. А ўжо сцэнічныя творы нам вельмі патрэбныя. Бярыце прыклад з Мікалая Гайдука, Сакрата Яновіча ды іншых празаікаў. І мой зямляк Іван Чыквін павінен над гэтым задумацца, бо яго першае апавяданне „Рыбаловы" — рэч дасканалая і на фактах абапіраецца.

Першы нумар альманаха „Белавежа" мае 316 старонак і змешчаны ў ім 24 аўтары. Другі нумар мае 196 старонак і 18 аўтараў. Паляцелі ўніз, хлопцы! Цікава, як будзе выглядаць трэці нумар, якога чакаю з нецярплівасцю. Праўда, некаторыя „белавежцы" дарабіліся сваіх кніжак, але гэта яшчэ мала, і, каб больш іх было, трэба пісаць і друкавацца на сваёй старонцы ў „Ніве" — гэта найлепш даходзіць да чытача.

**Мікалай Панфілюк**

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

## НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА XLII

**Сялянская праблематыка ў апавяданнях Коласа.** Апрача „Новай зямлі", рэалістычнае апісанне сялянскага жыцця выступае ў многіх апавяданнях пісьменніка. Некаторыя з іх былі навеяны атмасферай рэвалюцыі 1905 года. Знайшлі ў іх адлюстраванне тыя новыя настроі, якія агарнулі беларускую вёску. Аднак большасць апавяданняў пісьменніка, напісаных у гадах 1906-1917, утрымана ў гумарыстычным або звычаёвым плане. Большасць дакастрычніцкіх апавяданняў Коласа мае стройную архітэктоніку. Заўважаецца тут хуткі ход падзей, адсутнасць дыгрэсій, яркія постаці герояў, лёгкасць дыялагаў, нечаканыя сітуацыйныя павароты, наяўнасць выразнай развязкі. Усё гэта набліжае празаічныя творы пісьменніка да віду навелы. Дзякуючы гэтым якасцям малых празаічных форм, ужо ў нашаніўскую пару Колас становіцца адным з вядучых тагачасных беларускіх празаікаў. Дык нічога дзіўнага, што ўжо ў часы „Нашай нівы" крытыкі падкрэслівалі станоўчыя рысы Коласавай прозы. Адным з першых крытыкаў, які заўважыў у апавяданнях Коласа жыццёвы аўтэнтызм, быў Максім Багдановіч. Праўда, ацэнка Багдановіча ўтрымана ў даволі ўпрошчанай форме, але трэба сказаць, што паходзіць яна з тых часоў, калі беларуская крытыка рабіла першыя крокі.

„Т. Гушча (Я. Колас), — піша Багдановіч, — удае ўсякія размовы, а таму ахвотна бярэцца за гэта ў сваіх апавяданнях. Вялікая частка напісанага ім складываецца з кароценькіх пытанняў і такіх жа адказаў, дзеля чаго і чытаецца вельмі лёгка. Да такога ж Т. Гушча ўмее і пажартаваць і пасумаваць і раздумацца, і чытача на думку навесці, — што яшчэ болей надае вартасці яго творам".

Зараз зоймемся толькі тымі апавяданнямі, у якіх праяўляецца працэс разбуджэння класавай свядомасці беларускай вёскі, калектыўныя дзеянні сялян і іх выступленні супраць існуючага грамадскага ладу. Да такіх твораў трэба залічыць апавяданні: „Андрэй-выбаршчык", „Бунт", „Нёманаў дар". На першы погляд ідэалогія гэтых твораў зусім супрацьстаўная з той, з якой маем дачыненне ў „Новай зямлі". У паэме героі стараліся палепшыць свой лёс толькі шляхам індывідуальнага дзеяння і выключна легальным спосабам. У названых апавяданнях сяляне выступаюць калектыўна, а іх дзейнасць выламваецца з рамак легалізму. І ўсё ж такі ў апавяданнях, як і ў „Новай зямлі", выступаюць элементы пазітывістычнай ідэалогіі. Праяўляюцца яны ў тым, што Колас нідзе не заўважае класавага расслаення сялянскага класа. Заўсёды трактуе сялян як аднародную масу. Масу гэты пісьменнік супрацьстаўляе або панам, або дзяржаўнай сістэме.

Несумненна, атмасферай 1905 года трэба тлумачыць тое, што ў прозе паяўляюцца постаці, гатовыя да смелага грамадскага дзеяння. І гэтыя постаці не выдуманыя. Характарызуе іх жыццёвы аўтэнтызм. Праяўляецца ён і ў тым, што Колас не прыпісвае сваім сялянскім героям звышспелай рэвалюцыйнай свядомасці, а хутчэй за ўсё надзяляе іх рысамі людзей, якія толькі што класава прабуджаюцца і робяць на ніве класавай дзейнасці першыя крокі і першыя памылкі.

## ГМІННЫЯ НАВІНЫ

### КГВ ДАПАМАГАЮЦЬ ВЁСЦЫ

У Васількоўскай гміне дзейнічае 15 гурткоў вясковых гаспадынь (КГВ) з агульнай колькасцю 400 членаў. У працы дапамагае ім цэнтр „Сучасная гаспадыня“, які ўжо чацверты год вядзе Адэля Шчэсік (у бягучым годзе цэнтр заняў трэцяе месца ў спаборніцтве працы і атрымаў ад Ваяводскага праўлення сельскагаспадарчых спулдзельняў 7 тысяч злотых узнагароды). Цэнтр „Сучасная гаспадыня“ ў Васількове арганізуе паказы з галіны рацыянальнага харчавання, кулінарныя і кравецкія курсы. Вялікім зацікаўленнем карыстаюцца заняткі ў рамках школы здароўя. Удзельніцы іх вучацца, як берагчы здароўе і дбаць пра асабістую гігіену. Васількоўскі цэнтр „Сучасная гаспадыня“ наладжвае таксама ўрачыстыя святкаванні з нагоды: Міжнароднага жаночага дня, Дня дзіцяці, Дня маці, 1 Мая, гадавін Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і іншых.

У Васількоўскай гміне найактыўней працуюць КГВ у вёсках: Сахоні, Дамброўкі, Рыбнікі і Агароднічкі. У Сахонях і Агароднічках ёсць клубы селяніна і тут існуюць аматарскія харавыя калектывы. Найдаўжэй існуе калектыў у Сахонях — 10 год. Апякуецца ім настаўніца мясцовай школы Марыя Вярцінская. У хоры займаюцца: Аляксандра Малышка, Леакадзія Сохань, Юзэфа Казлоўская, Аліна Каладзейская, Вольга Рамановіч, Уладзіслава Арэнт, Яніна Юроўчык, Надзея Бернатоўская, Анастасія Цібароўская і іншыя.

КГВ у Сахонях узначальвае Маніка Рагоўская. Тут часта адбываюцца кулінарныя паказы. Члены КГВ у Дамброўках (старшыня Анна Высоцкая) ахвотна займаюцца ручной вышыўкай і вязаннем на прутках. У КГВ Рыбнікі (старшыня Анна Рыбнік) асаблівым зацікаўленнем карыстаюцца курсы рацыянальнага харчавання. У Агароднічках КГВ вядзе Ванда Матэйчук. Тут заснаваўся дружны жаночы хор. Летам тут дзейнічаў вясковы дзяцінец. Было тут 48 малалетак.

Значныя дасягненні маюць у сваёй дзейнасці клубы селяніна. У Сахонях вядзе яго Бажэна Рагоўская (ужо трэці год). У клубе ў Агароднічках працуе Крыстына Гурская (тры гады). Вялікай папулярнасцю карыстаюцца маладзёжныя танцавальныя вечарыны. У Сахонях актыўна працуе гурток фатографаў-аматараў. Эфекты іх працы асабліва відаць у клубных хроніках.

(яц)

# У НОВЫМ ЦЭНТРЫ ЗДАРОЎЯ

У пачатку бягучага года жыхары гміны Заблудаў атрымалі новы цэнтр здароўя. З працай цэнтра пазнаёміў нас кіраўнік цэнтра доктар Мацей Заблоцкі (ён ужо 26 гадоў прымае пацыентаў у гэтым амаль 2-тысячным пасёлку). Заходзілі мы ў паасобныя кабінеты: агульныя, педыятрычныя, стаматалагічныя, фізіётэрапіі, ЭКГ, у аналітычную лабараторыю і іншыя. Штодзень лекары прымаюць у іх каля ста пацыентаў. У будынку ёсць яшчэ святліца, гардэроб, пральня. Ёсць кватэра для лекара. Памяшканне цэнтра светлае (у будынку вялікія вокны) і прасторнае. Кабінеты поўнасцю забяспечаны медыцынскім абсталяваннем. На калідорах сядзела многа асоб, якія маюць патрэбу ўставіць сабе адзін-два зубы або пратэз. Цяпер такога роду паслугі выконваюцца на месцы.

Заблудаўскі цэнтр здароўя пабудаваны са сродкаў НФОЗ і пры актыўным удзеле мясцовага насельніцтва. У грамадскіх пачынах былі зроблены ўсе



*У стаматалагічным кабінеце.*

лягчэйшыя работы. Дапамога спатрэбілася нават і тады, калі пачалі ўжо расці сцены будынка. Сам доктар клапаціўся пра будаўнічыя матэрыялы, будаўнічыя машыны, склікаў людзей на пачын, не шкадуючы свайго часу (доктар жыве ў Заблудаве, у будынку цэнтра і таму, між іншым, заўсёды на варце, у любы час яго могуць паклікаць да хворага). Доктар Мацей Заблоцкі сцвярджае, што лекар павінен быць побач сваіх пацыентаў. Хворы спакойны, не нервуецца, хутчэй ачуняе, ведаючы, што можна разлічваць на лекарскую дапамогу ў любы час, што яго здароўе ў надзейных руках. У сучасным заблудаўскім цэнтры здароўя лабаранткі і лекары праводзяць асноўныя аналізы, прасвятленне. Усё гэта дапамагае лекару-спецыялісту зрабіць правільны дыягназ, а гэта, вядома, залог паспяховай дапамогі хвораму ці пацярпеўшаму ў аўтамабільнай катастрофе.

— Заблудаўцам прыдаліся б яшчэ дзіцячыя яслі, — гаворыць др М. Заблоцкі. — Столькі матак працуе на мясцовых прадпрыемствах і ў Беластоку! І ў іх малыя дзеці. А догляд — вядома які. Пра іх мы павінны асабліва клапаціцца, каб яны добра развіваліся і раслі здаровымі. І яшчэ адно. У Заблудаве патрэбны кватэры для лекараў, для медсясцёр. Тады мы мелі б на месцы больш спецыялістаў па розных хваробах. А зараз яны пакуль што даязджаюць з Беластока.

Тэкст і фота **Я. Целушэцкага**

# ВАЙКАЎ

(Працяг са стар. 1)

сы“ не толькі па навакольных „біндугах“, але таксама з „Бэрэстя (сённяшняга Брэста) і гналі часта аж у самы Гданьск. Дасканалым веданнем усяго дна Буга — безлічы вобмеляў і паваротаў — славіліся тутэйшыя „рэтманы“ (па-сённяшняму: брыгадзіры плытнікаў): Леўка Харко і Юзік Рэмеш. Калісьці не было такога вайкаўца, каб не меў ён лодкі — „валакоўкі“ і не займаўся рыбнай лоўляй. Злоўленыя самыя лепшыя „барвіны“, шчупакі ды ляшчы ўсе трымалі ў спецыяльных „садках“ у рачных затоках, каб прадаць скупшчыку, што наведваўся ў сяло з Сямяціч кожны чацвер. Ці то вяртаючыся з далёкага Гданьска з „орэлькі“, ці то пасля ўдалага продажу рыбы, або і так сабе ў святочны дзень, не супраць былі вайкаўцы пераступіць парог сваёй карчмы, каб спрабаваць адну-другую „кварту“ тае свежанькай, толькі што дабытай карчмаром са склепу ў тутэйшым бровары...

І так плыло жыццё дзень за днём, сыходзіла жвавай бужанскай хваляю, значачы сваё быццё шэрагамі магілаў на могільніку і тут, па-над берагам ракі: у Загародзі двух чырвонаармейцаў з 1920 г., у Нізах — невядомага партызана з часоў апошняй вайны. А колькі іх, нязначаных, на дне ракі? Недзе ў канцы лістапада 1941 года за Бугам, у Сухажэбрах, выбухла паўстанне савецкіх палонных у фашысцкім канцэнтрацыйным лагеры. Тысячы загінулі ад куляў, але некалькім дзесяткам удалося прарвацца праз агонь нямецкай аховы і загарады з калючага дроту і рассыпацца па наваколлю. Двое з іх дабрылі да Буга і, убачыўшы на другім беразе вёсачку, распрануліся і кінуліся ў раку. Адзін знайшоў смерць у ледзяной вадзе, другі шчасліва даплыў да берага. У сваю хату ўпусціў яго голага, адубеўшага ад холаду, страшэнна выхуднелага Іосіф Басіста. Калі ў юнака вярнуўся голас, ён сказаў, што паходзіць з-пад Ленінграда. Гаспадар абагрэў яго, накарміў, апрануў, расказаў, дзе схавацца ў лесе. Нечае злое вока прыкмеціла ўцекача, і жандары не літаваліся над І. Басістам на пастарунку ў Радзівілаўцы. Аднак ён не прызнаўся, не выдаў чалавека, якому нават Буг дараваў жыццё.

Сёння Вайкаў менш увагі звяртае на раку: яго цікавіць штораз больш даходная гаспадарка, асабліва гадоўля малочнага быдла, свіней, гусей, качак. Затое з кожным годам красу гэтай мясціны адкрывае ўсё большая колькасць жыхароў Варшавы, Гданьска, Беластока, і ў сяле прыбывае ўтульных каляровых дачных домікаў. І не дзіва: ад слупка з лічбай „215“, якая абазначае адлегласць адсюль да ўпадзення Буга ў Нарву, прасціраюцца надзвычай маляўнічыя краявіды.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

# ПЕРАДАВЫЯ ЧЫГУНАЧНІКІ

Перагрузчаму раёну ў Семяноўцы дзесяць гадоў. Тут працуе амаль тысяча чалавек. На працягу мінулых васьмі месяцаў бягучага года перагрузачны раён перагрузіў 768000 тон тавараў. Рабочы калектыў выканаў грамадскіх пачынаў на суму 128 тысяч злотых. Яны ў большасці канцэнтруюцца пры пабудове або рамонце сацыяльна-бытавых памяшканняў. Зараз у пабудове ёсць памяшканне для рабочых рамонтнай майстэрні і база для ўсіх іншых чыгуначнікаў у Семяноўцы, ды такая самая база ў Плянце. Праца перагрузчыкаў цяпер у значным маштабе механізавана.

Да перадавых рабочых перагрузчага раёна належаць: Чэслаў Зінеўскі, Ян Вясна, Мікалай Андрушкевіч, Людвік Студзінскі, Міхал Салагуба, Уладзімір Мароз, Павел Аўштоль, Юльян Бірыцкі, Аляксандр Каралюк, Мікалай Кардаш і іншыя.

З нагоды сёлетняга дня чыгуначнікі былі ўзнагароджаны: значкамі „Заслужаны для Беласточчыны“ — Арсень Койла, Аляксандр Шадуя, Ян Каліноўскі, Станіслаў Гарбалінскі, Анатоль Кабаць і Уладзімір Шыманюк, значкамі „Перадавы чыгуначнік“ — Мікалай Яўдосюк, Юзэф Камар, Ян Пракопчык, Мікалай Янушак, Мікалай Баброўскі, Міхал Смактуновіч, Варвара Карпей і Ян Скепка, с. Дарафея, апрача таго трынаццаць асоб было ўзнагароджана значкамі „Перадавік сацыялістычнай працы“.

(яц)

(Працяг са стар. 1)

# КІРАЎНІК „КАРО“

У 1958 годзе даверана яму кіраўніцтва трыкатажнай фабрыкай. І вось з гэтага часу давялося яму працаваць сярод сваіх людзей, бо родам ён з Гарадка. Яго жонка Люба, з якою ажаніўся ў 1954 годзе, з суседніх Бялявіч. У гэтай жа ўстанове працуюць яго сын і замужняя дачка.

Ад 1954 года з'яўляецца ён членам ПАРП. З грамадскіх яго функцый варта сказаць аб тым, што на працягу двух кадэнцый быў ён лаўнікам павятовага суда, дзве кадэнцыі членам пленума КП і 20 ужо год членам пленума КГ. Цяпер ён таксама радны ВРН. Прафесіянальная і грамадская дзейнасць Анатоля Кандрусіка высока ацэнены ўладамі. Узнагароджаны ён значкамі „Заслужаны для прадпрыемства „Каро“, „Заслужаны працаўнік лёгкай прамысловасці“, „Заслужаны для Беласточчыны“, а таксама дзяржаўнымі ўзнагародамі — Сярэбраным Крыжам Заслугі і Кавалерскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**

(Працяг са стар. 2)

# ІДУЦЬ УЛАСНАЙ ДАРОГАЙ

эстрадным спеваком Эдуардам Міцулем. Мы назваліся „Лявоны“ і паехалі зноў у глыб Беларусі. Першы свой канцэрт далі 1 верасня 1969 года і гэтую дату лічым фактычным нараджэннем нашага калектыву.

Але выступленні „Лявонаў“ не былі трыумфальным паходам: слухачам іх канцэрты вельмі падабаліся, але розныя самазваныя „знаўцы“ абвінялі іх у мясцовых газетах у „перакручванні і здзеках над народнай песняй“, хаялі і высмейвалі. Што і казаць, настрой у хлопцаў быў не надта ж бадзёры ад такіх ацэнак. Аднак...

— У 1970 годзе мы паехалі як акампаніятары на IV Усесаюзны конкурс артыстаў эстрады ў Маскву. Па-за гэтай сваёй „службовай“ функцыяй, вырашылі мы выступіць таксама з самастойнай праграмай. Без аніякіх спадзяванняў хоць бы на якое-небудзь пунктаванае месца. І раптам чуем рашэнне журы: мы занялі другое месца, а першага наогул не было! Гэты праўдзівы трыумф нашых творчых пошукаў акрыліў нас усіх, і перш за ўсё душу нашага калектыву — Валодзю Мулявіна. З Масквы мы ўжо вярнуліся як „Песняры“ і, закасаўшы рукавы, узяліся за работу. Да нас далучыліся Леанід Барткевіч, Анатоль Кашавараў і іншыя. Мы вельмі многа працавалі над выканаўчым майстэрствам. Мулявін многа кампанаваў. Аснову нашага рэпертуара склалі беларускія народныя мелодыі або творы беларускіх кампазітараў.

І тут неабходна дадаць, што ўвесь арыгінальны „пяснярскі“ творчы стыль заснаваў У. Мулявін на глыбокіх даследаваннях беларускай народнай песеннай творчасці і мастацкіх прыёмах яе выканання спевакамі з народа. Дзеля гэтага ён з'ездзіў і схадзіў безліч вёсак і мястэчак, спазнаў самыя таемныя асаблівасці беларускага народнага меласу. Мне пашанцавала пабачыць на праглядзе ў Доме літаратара надта ж цікавы дакументальны фільм „Нарачанская балада“, якраз пра адну з такіх вандровак-паломніцтваў У. Мулявіна і, здаецца, супрацоўнічаючага з ім кампазітара І. Лучанка да самых першакрыніц беларускага музыкальнага фальклору. І так творчы талент, глы-



## КОСЫЯ СКРОНІ

Да нас у трэст прызначылі новага начальніка. А гэта — заўсёды нейкая перабудова. Пачне старыя кадры замяняць сваімі людзьмі, заводзіць іншыя парадкі. Да ранейшага прывыклі ўжо, прыстасаваліся да яго патрабаванняў і нават капрызаў. А які будзе новы?

Ужо на другі дзень ён выклікаў мяне як кіраўніка аддзела з матэрыяламі па рабоце.

Спачатку ў крэсла пасадзіў, пачаў распытваць пра здароўе, пра сям'ю. Пацікавіўся нават, як дзеці вучацца. А сам усё на мяне скрозь акуляры ўглядаецца. Спачатку я не зразумеў, чаму, а потым і сам гляну на яго больш уважліва. Бачу — скроні ў яго падрэзаны коса!

У папярэдняга начальніка скроні прамыя былі. І ўсе мужчыны ў трэсце таксама прамыя насілі. А ў гэтага — косыя, нават тонка завостраныя.

Скончылі мы з ім уступную частку, перайшлі да справу па рабоце майго аддзела. Тут ён мяне і „разнёс". Нашчэнт!

Я, вядома, зразумеў, чаму. Нездарма ён мяне гэтак уважліва разглядаў. Мае прамыя скроні яму не спадабаліся.

Увечары пайшоў я ў цырульню, папрасіў зрабіць косыя. На другі дзень выклікаў мяне галоўны інжынер трэста. Прыйшоў я ў кабінет, а ў яго скроні, як і раней, прамыя.

Даў ён мне наганяй за непаладкі на будоўлях. Дакарае, а я ж бачу: на скроні глядзіць. Стала мне ясна, у чым прычына.

Выйшаў я ад яго ў халодным поце і разважаю сабе: „Як жа быць далей? Калі прамыя скроні — мой начальнік злуецца, косыя — галоўны інжынер".

Пайшоў зноў у цырульню і пагаліўся зусім. Тут табе выйсце са становішча, і кажуць, што вельмі добра валасы потым растуць.

Цяпер жонка жыцця не дае. „У іншых, — гаворыць, — мужы — людзі як людзі, нават з рэштках валасоў умеюць прычоску зрабіць. А ты пагаліўся і на старасці гадоў лысым таўкачом будзеш хадзіць!"

Вось еду цяпер у санаторый, буду гадаваць валасы. Толькі як потым быць са скронямі — пад начальніка галіцца ці пад галоўнага інжынера? Проста не ведаю.

**Фёдар Овад**



— *Куды ж ты, мілы?*

З „Весніка Задрыпоніі"

**УПЛЫЎ ВУЛІЦЫ**

Школа і бацькі Федзі Шарсцюка ўдзялялі хлопчыку мала ўвагі, і ён амаль увесь час праводзіў на вуліцы. Здарылася тое, што павінна было здарыцца: пад уплывам вуліцы хлопчык вывучыўся на архітэктара і пачаў будаваць буйнапанельныя дамы.

**ПЫТАННЕ ГАПКІ**

Колькі каштуе тое, чаму цаны няма?



**Шлюб па разліку: разлічваў на хуткі развод.**

# НІЎКА



*З сямейнага жыцця.*

**ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ**

*Па просьбе Алі Панькоўскай з Масева змяшчаем песню*

## TAKIE ŁADNE OCZY

Słowa: Marek Dagnan
Muzyka: Seweryn Krajewski

Ładne oczy masz.
Komu je dasz?
Takie ładne oczy,
takie ładne oczy.
Wśród wysokich traw
głęboki staw.
Jak mnie nie pokochasz,
to się w nim utopię.

W stawie zimna woda,
trochę będzie szkoda,
trochę będzie szkoda, gdy
utopię się w nim...

Powiedz że mi, jak
Odgadnąć mam,
czy mnie będziesz chciała,
czy mnie będziesz chciała...

Przez zielony staw
łabędzie dwa
grzecznie sobie płyną.
Czy mnie chcesz dzieczyno?

W stawie zimna woda...

Inne oczy masz
każdego dnia.
Diabeł nie odgadnie,
co w nich chowasz na dnie.
Przez zielony staw
przeleciał wiatr.
Po przejrzystej toni
fala falę goni.

W stawie zimna woda,
trochę będzie szkoda...
Komu będzie szkoda, gdy
utopię się w nim?...

Ładne oczy masz.
Komu je dasz?
Takie ładne oczy,
takie ładne oczy...
Ładne oczy masz.
Komu je dasz?
Takie ładne oczy,
takie ładne oczy,
takie ładne oczy...

**РАШЭННІ**

— Я вырашыла не выходзіць замуж, пакуль мне не споўніцца дваццаць пяць год, — прызналася малодшая сястра.

— А я вырашыла не дасягаць дваццаці пяці год, пакуль не выйду замуж, — сказала ўздыхнуўшы старэйшая сястра.

# Трымайце вуха!

*Каму праўчэцца-той здагадаецца*

**ЗАЧАРАВАНАЕ КОЛА**

*Мурашка напісала Льву заяву,*
*Але яна да адрасата не дайшла,*
*А трапіла да мудрага Асла.*
*Вушамі той паварушыў рухава*
*І даручыў Мядзведзю гэту справу.*
*Таптыгін рыхтаваўся да зімовай спячкі,*
*Больш думаў: дзе б дастаць мядку?*
*Развязваць другарадныя задачкі*
*Ён давяраў Ваўку.*
*А шэры,*
*Панюхаўшы паперы,*
*Накіраваў іх неадкладна Вепруку,*
*А той — Лісе, Ліса — Вавёрцы,*
*Яна ж — Крату, які капаўся ў норцы,*
*А Крот — Жуку.*
*Бурклівы Жук Мурашку адшукаў,*
*Ёй пад распіску перадаў*
*Цяжкую папку*
*І строга паківаў*
*Пад носам лапкай:*
*— Бач, пішуць розныя, што трэба,*
*што не трэба...*
*Глядзі ў мяне! Бо застанешся ты без хлеба!*

*Ну, а мараль якая?*
*Няхай тут кожны сам паразважае...*

**Эдуард Валасевіч**



*Без слоў.*

# Курёзы

**А НУМАР УДАЎСЯ...**

49-гадовая амерыканская актрыса па прозвішчы Макскінней на працягу многіх гадоў карысталася другараднымі ролямі і не магла прэтэндаваць на запрашэнне нейкай аўтарытэтнай фірмы здымацца ў кіно. Нарэшце яна вырашыла зрабіць аднойчы рывок да знакамітасці і сама сабе зрабіць дастойную рэкламу.

Аднойчы яна села ў самалёт, які ляцеў з Лос-Анджэлеса па курсу Юнайтэд-Атрэлайнс, і ўжо ў паветры дастала з дарожнай сумкі ўнушальных памераў кардонную каробку і паклікала да сябе сцюардэсу:

— Калі ласка, аддайце камандзіру карабля маю запіску, — карэктна папрасіла яна.

А ў запісцы было такое, што ў першы момант лётчыкі толькі разгублена пазіралі адзін на аднаго і паціскалі плячамі: „Хачу дамовіцца з галівудскімі зоркамі аб сумесным выступленні ў тэлепраграме. Калі мне гэта не будзе гарантавана па радыётэлефоне, я зараз жа падарву самалёт разам з камандай і пасажырамі".

Камандзір карабля накіраваў адпаведную тэлеграму на зямлю: што рабіць? У аэрапортах таксама не маглі даць рады. На працягу дзевяці гадзін экіпаж самалёта адчуваў сябе, як на гарачай патэльні. І толькі пад канец палёту аднаму паліцэйскаму агенту службы суправаджэння ўдалося адабраць у злашчаснай пасажыркі Макскінней яе грозную кардонную каробку. Аднак, на здзіўленне, там нічога такога не было, апрача самых звычайных рэчаў паходнага жаночага туалету.

У аэрапорце гэты самалёт сустракала мноства ўзрушаных афіцыйных асоб, прадстаўнікоў розных службаў. Макскінней адразу арыштавалі. Між іншым, ёй сказалі:

— Калі вы не хворая, то як жа вы так неразумна разлічвалі заваяваць сабе рэпутацыю, якая дапамагла б вам стаць знакамітай з дапамогай сваіх галівудскіх калег? Вы ведаеце, што вам пагражае суд?

Яна, не хаваючы сваёй урачыстасці, адказала:

— Суд мяне апраўдае, бо самалёт я не падарвала, а, як бачыце, толькі пажартавала. Спадзяюся, што суддзі таксама людзі з гумарам. А што датычыцца рэкламы, то я яе сабе ўжо стварыла. Глядзіце, — паказала яна на добры дзесятак мітуслівых рэпарцёраў з фотакамерамі і бліцамі. — Яны толькі і імкнуцца, каб разнесці гэту вестку ва ўсіх газетах. А мне больш нічога і не трэба. Зараз мною зацікавіцца артыстычны свет, і не сумняваюся, што якая-небудзь прыстойная тэлекінафірма ацэніць маю вынаходлівасць...

**ЗРАЗУМЕЛА**

Маленькая Элачка нейк паскардзілася бацьку на боль у жываце. Той і кажа:

— Дачуся, каб жывоцік не балеў, трэба, каб ён не быў парожнім, а дзеля гэтага трэба добра есці. Зразумела?

У наступны дзень дачка ўбачыла, што бацька павязаў галаву ручніком...

— Татка! Я ведаю, чаму ў цябе галава баліць.

— А чаму?

— Таму, што яна ў цябе парожняя...




*Чаго ў спорце не бывае!*

# Між намі

**Добра смяецца той, хто смяецца не адзін.**